СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.06, 17.53, 11.47;
Віцебск — 5.57, 17.43, 11.46;
Магілёў — 6.56, 17.42, 11.48;
Гомель — 5.54, 17.38, 14.44;
Гродна — 6.23, 18.06, 11.43;
Брэст — 6.22, 18.09, 11.47.

МЕСЯЦ:
Маладзік 26 верасня

ІМЯНІНЫ:
Віктара, Дарафея, Людмілы, Язэпа, Ісака, Міхаіла.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

29 ВЕРАСНЯ 1992 г. аўторак, № 195 (21973)

# РОЗГАЛАС

## ПРЫ ШТУРМЕ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ПЕНСІЯНЕРАЎ НЕ БУДЗЕ

Вучоныя Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі ў выніку сацыялагічнага даследавання, праведзенага сярод насельніцтва рэспублікі, выявілі нечаканыя рэвалюцыйныя тэндэнцыі. Аказваецца, 17 працэнтаў студэнтаў і навучэнцаў гатовы ўдзельнічаць у захопе прадпрыемстваў. Таксама па-баявому настроены 16 працэнтаў сялян, 13 працэнтаў рабочых, 10 працэнтаў прадпрымальнікаў і 6 працэнтаў інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых. І толькі з ліку пенсіянераў ніхто не думае захопліваць прадпрыемствы. Больш таго, большасць з іх (77 працэнтаў) не маюць намеру ўдзельнічаць у несанкцыяніраваных забастоўках, а 46 працэнтаў—ва ўсебеларускім рэферэндуме і дружна (аж 82,2 працэнта!) пенсіянеры выступаюць супраць роспуску Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Аб гэтым паведаміў «Акадэмінфарм».

## Нашчадкі вялікага камбінатара

далі аб сабе знаць у Бярозе ў асобе аднаго мясцовага малога прадпрыемства.

Яны злучылі ідэі «святых пісьмаў» і мінулагодніх грашовых гульняў. Друкарскім спосабам вырабілі «пісьмо шчасця», у якім заклікаюць пералічыць на іх рахунак тысячу рублёў і накіраваць пісьмо яшчэ 22 адрасатам. Узамен абяцаюць шчасце і дабрабыт, а таксама 400 тысяч рублёў, калі пашанцуе. У канцы паслання, як і ў «святых пісьмах», адзначаецца, што пісьмо «павінна абысці ўвесь свет». Вось ужо праўда, што самы выгадны бізнес усё ж разлічаны на дурняў.

**Святлана ЯСКЕВІЧ.**
**(РІД).**

## Мільянераў усё больш

На апошнім пасяджэнні савета Саюза прадпрымальнікаў Беларусі разглядаліся заявы 17 калектываў, якія пажадалі стаць членамі вышэйпамянёнага Саюза. Здаецца, няма ў гэтым нічога дзіўнага, калі не ўлічваць адну маленькую дэталь: членам Саюза прадпрымальнікаў Беларусі можна стаць толькі маючы не менш мільёна рублёў абаротных сродкаў і «стаж» работы ў бізнесе больш 3 гадоў. Дарэчы, зараз Саюз налічвае каля 150 пастаянных членаў.

## КАЛІ ЎЖО БУДЗЕМ СКАРАЧАЦЦА?

«Беларускае войска—сучаснасць і будучыня»—пад такой назвай 25 верасня ў Мінску адбылася пашыраная соймавая канферэнцыя БНФ з удзелам дэмакратычных партый і арганізацый. Дастаткова сказаць, што акрамя дэпутатаў апазіцыі і членаў Сойму БНФ, прадстаўнікоў Беларускага згуртавання вайскоўцаў, АДПБ, БСП, НДПБ, БСД, на ёй таксама прысутнічалі госці з беларускай дыяспары ў Маскве і ЗША.

Адной з крыніц сродкаў для больш поўнай сацыяльнай абароны вайскоўцаў павінна стаць скарачэнне войска, найперш штабных работнікаў, а таксама пераход да найму цывільных медыкаў, фінансістаў—гаварылася на канферэнцыі.

Афіцэры БЗВ абвясцілі таксама аб стварэнні пры іх руху Камітэта па барацьбе з карупцыяй і Камісіі па вяртанню афіцэраў-беларусаў на Бацькаўшчыну.

**Зміцер ЖДАНЮК.**

## ПРАДАВАЦЬ РАДЗІМУ ВЫГАДНА ЗА СКВ

40 тысяч рублёў за адзін ордэн Леніна? Дваццаць за ордэн Славы? Дзве сотні за рэдкія медалі? Фу, якая дробязь! Гандлююць, вядома, што зробіш, але цэн сапраўдных не ведаюць, «са столі» бяруць. Вось зводка сапраўдных амерыканскіх расцэнак на савецкую ваенную маёмасць (усё ў доларах ЗША):

Абмундзіраванне (парадны мундзір салдата тэрміновай службы)—35—150
Халодная зброя—150—250
Каскі і галаўныя ўборы—50
Вымпелы, сцягі і г.д.—10—200
Медалі—5—20
Ордэны—30—80.

Пры гэтым дададзена, што цэны на чырвонаармейскую атрыбутыку часоў Вялікай Айчыннай вайны ў сярэднім ў два разы вышэй за прыведзеныя тут.

**РІД.**

## Інфармацыя для роздуму:

### НЕДЗЯРЖАЎНЫЯ СТРУКТУРЫ

На долю недзяржаўных структур рэспублікі, у асноўным малых і сярэдніх прадпрыемстваў, сёння прыпадае каля 4 працэнтаў кошту асноўных вытворчых фондаў і прыблізна 7 працэнтаў выпускаемай прадукцыі. У гэтай сферы занята сёння каля 2 працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых у рэспубліцы.

## БЕЛАРУСЫ—НАЦЫЯ ПАЭТАЎ

Прэстыжная «Файнэншл таймс» змясціла артыкул пра тое, як у краінах СНД глядзяць серыял «Багатыя таксама плачуць». Аказваецца, пасля першых серый, калі Марыяна была яшчэ беднай, чуллівыя пенсіянеры СНД пасылалі ёй у Мексіку грашовыя пераводы. Гледачы літаральна завалілі лістамі «Астанкіна» і мексіканскае пасольства. А з Беларусі паступіла нават паэма на 24 старонках.

**Андрэй КОРСАК,**
**БелаПАН.**

## ТАКІ ВОСЬ ДЫСБАЛАНС

Асаблівасцю попыту і прапановы рабочай сілы на рынку працы рэспублікі з'яўляецца тая тэндэнцыя, што калі ў адных рэгіёнах людзі не могуць працаўладкавацца па сваёй спецыяльнасці, то ў іншых спецыялістаў такога роду не хапае.

Паводле даных службы інфармацыі рэспубліканскага Цэнтра занятасці насельніцтва, такое становішча склалася па газаэлектразваршчыках, слесарах механазборачных работ, слесарах-рамонтніках. У Мінску на іх попыт адпаведна каля 200, 100 і 120 чалавек, а вось у Брэсцкай вобласці—лішак (таксама адпаведна каля 60, 50 і 80 чалавек). Швейным прадпрыемствам Віцебскай вобласці патрабуецца больш за 100 швачак-матарыстак, а вось у Брэсцкай і Мінскай абласцях больш за 150 работнікаў гэтай спецыяльнасці не могуць знайсці прымяненне сваёй кваліфікацыі. Мінскім прадпрыемствам патрабуецца больш за 70 электрамантажнікаў, каля 40—заводам Віцебскай вобласці, у той час як у Брэсцкай і Мінскай абласцях лішак рабочых гэтай спецыяльнасці складае адпаведна 70 і 40 чалавек.

## НІГЕРЫЙСКІ ПРЫНЦ НЯХАЙ ЛЕПШ ЗОЙМЕЦЦА САФАРЫ

Як паведаміла агенцтва «Інтэрфакс», а потым і расійская праграма «Весці», наследны прынц Нігерыі Роўлінг звярнуўся ў Вярхоўны Савет Беларусі з просьбай прадаставіць яму магчымасць прайсці навучанне ў адной з мясцовых ваенных вучэбных устаноў. У сваім пасланні прынц запэўніў вышэйшы заканадаўчы орган Беларусі ў сваёй гатоўнасці са зброяй у руках, калі гэта спатрэбіцца, адстойваць незалежнасць і суверэнітэт рэспублікі ў радах яе Узброеных Сіл.

Як паведамілі ў парламенцкай камісіі па нацыянальнай бяспецы, Яго Вялікасці было прапанавана пачакаць з паступленнем у беларускае ваеннае вучылішча хаця б два гады, калі прынцу споўніцца 17 гадоў.

## Вытворчасць ідзе навыперадкі з цэнамі

МІНСК. Паводле даных Мінгарстатупраўлення, у студзені—жніўні 1992 года ў сталіцы Беларусі павялічылася вытворчасць пральных машын на 3.324 штукі, электраміксераў — на 16.026, бытавых электрамясарубак — на 8.763, фотаапаратаў — на 14.459, электрасокавыціскалак — на 6.421, мэблі — на 70.321 тысячу рублёў.

## Дзень дзеянняў па абароне беспрацоўных

Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі падтрымаў рашэнне выканкома Еўрапейскага Саюза беспрацоўных аб правядзенні 6 кастрычніка 1992 года Дня дзеянняў па абароне ад беспрацоўя. Яго мэта — прадэманстраваць салідарнасць з усімі грамадскімі сіламі і рухамі еўрапейскіх краін і краін СНД, што выступаюць у абарону людзей працы, прыцягнуць увагу ўрада, органаў мясцовай улады да пагрозы масавага беспрацоўя, давесці да работадаўцаў канкрэтныя прапановы па забеспячэнню занятасці насельніцтва.

## СУПРАЦЬ РАДЫЯЦЫІ БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА РАЗАМ З ІЗРАІЛЕМ І РАСІЯЙ

Нядаўна ў Інстытуце цепла- і масаабмену АН Беларусі адбылося падпісанне дагавора аб стварэнні сумеснай расійска-беларуска-ізраільскай лабараторыі радыяцыйнай экалогіі. З гэтай мэтай інстытут наведаў прафесар універсітэта г. Бер-Шэва (Ізраіль) С. Розін. Госць таксама пабываў у Інстытуце радыяцыйнай медыцыны і Інстытуце радыяцыйных фізіка-хімічных праблем, дзе прайшло абмеркаванне магчымасцей сумесных даследаванняў.

## 60 ТЫСЯЧ—НЕ МЯЖА

БАРАНАВІЧЫ. Амаль 60 тысяч рублёў выйграў нядаўна жыхар горада М. у зале ігральных аўтаматаў Дома афіцэраў. Да гэтага, дарэчы, рэкордная сума складала 45 тысяч рублёў.

Паводле выказвання адміністрацыі Баранавіцкага аддзялення фірмы «Белатракцыён», 60 тысяч—не мяжа. Можна выйграць і ў тры—чатыры разы больш. Калі «пашанцуе», вядома.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ЦЫГАРЭТЫ НЕ ПРОЙДУЦЬ!

Як нам паведаміла Галоўнае ўпраўленне пагранічных войск РБ, пагранічным нарадам па дагляду транспартных сродкаў аддзялення пагранічнага кантролю Казловічы атрада пагранічнага кантролю Брэст затрымана кантрабандная партыя замежных цыгарэт на суму 10 мільёнаў 287 тысяч рублёў, схаваная ў паўпрычэпе аўтамашыны «Вольва», якая ішла транзітам з Балгарыі ў Германію.

## Можа, біржа дапаможа?

На беспрэцэдэнтны крок у гісторыі беларускіх біржаў вырашыла пайсці Беларуская біржа нафтапрадуктаў і палімераў. Яна прыме непасрэдны ўдзел у стварэнні транснацыянальнай карпарацыі па здабычы і перапрацоўцы нафты з плануемым статутным капіталам не менш 1 мільярда рублёў.

Выхад на прамое супрацоўніцтва з нафтаздабываючымі рэгіёнамі Расіі дасць рэальны шанц у поўным аб'ёме загрузіць нафтаперапрацоўчыя магутнасці рэспублікі, пазбегнуць паліўнага крызісу.

## РАСІЙСКІЯ БАНКІ—НЕ НАШ НАДЗЕЙНЫ ПАРТНЁР

Паводле даных Дзяржкамстата, штодзённа Беларусь выплачвае Расіі за пастаўляемыя ёю на парытэтных пачатках прадукцыю і сыравіну 1 мільярд рублёў. З расійскіх жа банкаў атрымліваем толькі 600 мільёнаў, што ставіць многія беларускія працоўныя калектывы ў вельмі цяжкія фінансавыя ўмовы. Ва ўрадзе нашай рэспублікі лічаць, што расійская банкаўская сістэма дагэтуль слаба кіруецца і гэта можа мець цяжкія вынікі як для саміх расіян, так і для іх партнёраў.

**Выпуск «Розгаласа» рыхтавалі: Уладзімір Здановіч, Ігар Карней, Аляксандр Коктыш, Станіслаў Сулкоўскі, Ігар Шчучэнка.**

# Урад прымае меры супраць карупцыі

У маі — верасні г. г. урад Рэспублікі Беларусь ажыццявіў комплекс мер, накіраваных на спыненне злачыннасці, карупцыі, злоўжыванняў у структурах выканаўчай улады. Грунтоўна прааналізавана работа Міністэрства ўнутраных спраў, праведзены шырокія праверкі дзейнасці розных ведамстваў, дзяржаўных і камерцыйных арганізацый. Па выніках гэтай работы 24 верасня г. г. Савет Міністраў прыняў пастанову «Аб сур'ёзных недахопах у рабоце дзяржаўных і гаспадарчых органаў, службовых асоб па абароне эканамічных інтарэсаў рэспублікі», якая сёння публікуецца ў друку. У дакуменце вызначаны канкрэтныя меры эканамічнага і адміністрацыйна-прававога характару па стабілізацыі абстаноўкі ў рэспубліцы.

Уводзіцца дзяржаўная манаполія на гандаль алкагольнымі напіткамі, півам, тытунёвымі вырабамі. Забараняецца продаж на біржах цэнтралізавана размяркоўваемых рэсурсаў. Прадастаўляюцца дадатковыя правы работнікам праваахоўных органаў. У Вярхоўны Савет рэспублікі будуць унесены прапановы па ўдасканаленню дзеючых і прыняццю новых заканадаўчых актаў, што рэгулююць прававыя адносіны ў рэспубліцы.

Пастанову і выкладзеныя ў ёй меры Савет Міністраў разглядае толькі як першы этап у вялікай і цяжкай справе навядзення парадку, выкаранення негатыўных з'яў у грамадстве. Урад ясна ўсведамляе тое, што работа па забеспячэнню законнасці, правоў і свабод асобы з'яўляецца неад'емнай часткай будаўніцтва самастойнай дзяржаўнасці, умацавання незалежнасці Беларусі.

Актывізуецца дзейнасць дзяржаўнай падатковай службы.

Пры Савеце Міністраў рэспублікі ўтвораны Дэпартамент эканамічнага кантролю.

З мэтай забеспячэння бяспекі грамадзян Старшыня Савета Міністраў В. Ф. Кебіч даручыў Міністэрству абароны, МУС, КДБ арганізаваць у начны час сумеснае патруляванне ў гарадах і населеных пунктах, на дарогах і аўтастрадах. Плануецца ажыццяўленне шэрагу іншых мерапрыемстваў.

Савет Міністраў мае намер і далей няўхільна прытрымлівацца курсу на ўмацаванне парадку, рэфармаванне ўсіх сфер грамадскага жыцця, хутчэйшае пераадоленне трагічных для народа вынікаў разбурэння эканомікі былога СССР.

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

24 верасня 1992 г. № 588 г. Мінск

## Аб сур'ёзных недахопах у рабоце дзяржаўных і гаспадарчых органаў, службовых асоб па абароне эканамічных інтарэсаў рэспублікі

Разгледзеўшы запіску Упраўлення грамадскай бяспекі і абароны, Упраўлення прамысловасці, міждзяржаўных сувязей і матэрыяльных рэсурсаў, Упраўлення знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці, аддзела арганізацыйна-савецкай работы і мясцовага самакіравання Кіраўніцтва справамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Пракуратуры і Міністэрства ўнутраных спраў «Аб сур'ёзных недахопах у рабоце дзяржаўных і гаспадарчых органаў, службовых асоб па абароне эканамічных інтарэсаў рэспублікі», Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. За нізкі ўзровень кіраўніцтва дзейнасцю Дзяржаўнага камітэта па забеспячэнню нафтапрадуктамі, бескантрольнасць за выкананнем рашэнняў урада ў частцы вывазу нафтапрадуктаў за межы рэспублікі, пару-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Аміячнае воблака

Магутны выбух прагучаў 24 верасня ў 17 гадзін 05 хвілін на фабрыцы марожанага ў Брэсце. Тут адбыўся разрыў рэверса асноўнай ёмістасці з вадкім аміякам. У выніку аварыі тры тоны рэчыва хутка перайшлі з вадкага ў газападобны стан. На шчасце, не было моцнага ветру, і воблака паднялося ўверх, а не рассеялася на вялікай тэрыторыі. У лічаныя хвіліны была эвакуіравана другая змена рабочых прадпрыемства, аператыўна і зладжана спрацавалі работнікі міліцыі.

На месца аварыі адразу ж выехалі прадстаўнікі гарадской камісіі па надзвычайных сітуацыях на чале з намеснікам старшыні гарвыканкома Аляксеем Авечкіным.

Як паведаміў начальнік штаба Грамадзянскай абароны Уладзімір Бяссмертны, уцечка аміяку была спынена ў той жа дзень. Працягваецца нейтралізацыя забруджанай тэрыторыі. Што датычыць прычын выбуху, то, як стала вядома карэспандэнту БЕЛІНФАРМа з кампетэнтных крыніц у праваахоўных органах, паводле папярэдняй ацэнкі, аварыя не з'яўляецца чыімсьці злым намерам або актам сабатажу. Хутчэй за ўсё тут мае месца факт заводскага браку ў тэхналагічным абсталяванні.

**Іван КУКСА.**



# У складаных умовах можа апынуцца Вярхоўны Савет,

## выносячы на сесію праект Канстытуцыі

Што ёсць жорсткасць? Калі біць чалавека прасам — гэта, канешне, жорстка. А калі прас пакласці ў валёнак, і ўжо тады?..

Жартоўны прыклад, які крыху прагнаў стому, нарадзіўся амаль у канцы рабочага дня, пры абмеркаванні 26-га артыкула: «Ніхто не павінен падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечаму або прыніжаючаму яго годнасць абыходжанню...». Гэта ў другім раздзеле праекта Асноўнага Закона, дзе гаворыцца пра ўзаемаадносіны асобы, грамадства і дзяржавы. Ці проста асобы і дзяржавы (без грамадства) — дэпутаты тут не вызначыліся. Пакінулі «на потым».

Кансультатыўны Савет парламента і Канстытуцыйная камісія досыць дружна дашліфоўвалі самы галоўны ва ўсе часы дакумент.

Але чым больш дашліфоўвалі, тым рабілася ясней, што работы тут — як на таку ў жніво: лапаціць ды лапаціць.

З раніцы «зачапіліся» за ўступ: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з адказнасці за сучаснае і будучае рэспублікі...». Чаму «мы, народ...»? Канстытуцыю ж будзе прымаць Вярхоўны Савет. З другога боку — ён прадстаўляе інтарэсы нацыі, народ дэлегаваў свае правы яму, парламенту. Праект выносіўся на ўсенароднае абмеркаванне і паступіла больш за 15 тысяч прапаноў. Так што народ — сапраўдны аўтар Канстытуцыі.

І ўсё ж у гэтай формуле нешта замінала. Барыс Савіцкі прапануе рэдакцыю: «Мы, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, дзейнічаючы ад імя выбраўшага нас народа...». Не згадзіўся Мікалай Крыжаноўскі: не трэба, мы і так маем права выступаць ад імя народа. Саюзнікі знайшліся і ў аднаго, і ў другога.

Пакінулі на разгляд сесіі.

Далей ішла фраза: «...аддаючы належнае пошукам справядлівага грамадскага ладу на старажытнай зямлі Беларусі, якія знайшлі адлюстраванне ў Статутах Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, Статутных граматах Беларускай Народнай Рэспублікі, Канстытуцыях Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а таксама ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь...».

І адразу пасыпаліся прапановы: зняць пра Жамойцкае і яму падобныя княствы, бо пабач ужо ёсць сказ пра шматвяковую гісторыю. Канстытуцыя — не падручнік.

А ў апанентаў (Анатоль Вярцінскі, Іосіф Юхо, Валянцін Голубеў) — свае довады. Людзі дрэнна ведаюць гісторыю. Яе спрабуюць прысвоіць суседнія дзяржавы. І потым — ужо ж дамовіліся, што выпрацоўваемы дакумент падсумоўвае дзейнасць усіх, без выключэння, гістарычных утварэнняў і палітычных сіл, што былі на Беларусі. Каб падкрэсліць гістарычныя карані нашай суверэннасці.

Прэамбулу «са скрыпам» прынялі, даручыўшы рабочай групе яшчэ раз узважыць прапановы.

Калі гаварыць пра чыста знешнія ўражанні, то абмеркаванне ішло досыць міралюбіва. Лаяльнасць, з якою ставіліся адзін да аднаго прадстаўнікі абедзвюх крайніх пазіцый у парламенце, парадавала. Дзякаваць Богу, навучыліся нарэшце спрачацца канструктыўна, цывілізавана. Але... але чаму да гэтага часу столькі няўзгодненасці па тэксту? У першай палове дня было так: практычна што ні артыкул, то «на дапрацоўку», «на вырашэнне сесіі», «рабочай групе прагледзець яшчэ раз».

У другой палове пайшло крыху раўней — не так «спатыкаліся» на фармуліроўках. Ці то раздзелы траляліся больш падрыхтаваныя, ці таму, што зала... напалову апусцела. Вось якая прыкрасць.

І паволі ў душы нарастала трывога. Варта вынесці праект Канстытуцыі ў такім выглядзе на разгляд сесіі, і сесія хутчэй за ўсё «забуксуе». Калі Канстытуцыйная камісія з вялікім актывам навукоўцаў-кансультантаў за два гады (!) не здолела разабрацца ва ўсіх тэрмінах, паняццях, прыйсці да паразумення хаця б па большасці артыкулаў (а іх ажно 170), то зрабіць гэта на сесіі амаль што немагчыма. Сесіі павінны быць прапанаваны ўзважаныя варыянты спрэчных артыкулаў, надрукаваныя побач адзін з адным, каб магчыма было параўноўваць і прымаць рашэнне, а не нешта няўцямнае, «з голасу». На слых законы не пішуцца. Асноўны — тым больш.

Нялёгкае абмеркаванне на Вярхоўным Савеце прадказваюць і народныя выбраннікі. Зыходзячы з вопыту, яны лічаць, што паўторыцца сённяшняя сітуацыя, калі зноў і зноў будуць вяртацца да адных і тых жа пастулатаў і кожны раз знаходзіць аргументы як «за», так і «супраць». Гэта значыць, кожны раз пачынаць з пачатку. Так што на сесіі ўсё пачнецца з «Мы, народ Рэспублікі Беларусь...» У такім разе ці ўдасца дакумент прыняць наогул? Некаторыя дэпутаты (а яны ведаюць, што гавораць) выказалі сумненне.

Цяпер уявіце сабе Вярхоўны Савет, які за два гады не змог распрацаваць і прыняць Асноўны Закон, маючы для гэтага не толькі перадумовы, але і ўсе магчымасці. Гэта можа стварыць для яго крызісную, амаль што тупіковую сітуацыю. Дык ці варта так «падстаўляць» уласны рэйцінг?

Да адкрыцця сесіі застаўся 21 дзень. Мала, канешне. Але дададзім сюды яшчэ і 21 ноч. З тым вопытам, які набыла Канстытуцыйная камісія за доўгія месяцы распрацоўкі Асноўнага Закона, за гэты час можна дасканала «давесці» праект.

Хто мы — бяз'ядзерная дзяржава ці зусім наадварот? У якой ступені мы гатовы праводзіць палітыку недалучэння? Наша маладая рэспубліка — унітарная? Яна хоча стварыць для ўсіх сваіх грамадзян роўныя магчымасці ці роўныя правы? Незалежнасць і федэрацыя — гэтыя паняцці ўзаемна выключаюць адно аднаго, ці іх можна прымірыць? Такіх «закавык» па тэксту Асноўнага Закона, вакол якіх у асноўным і ішлі дэбаты, набіраецца не адзін дзесятак.

Пытанні, пытанні, пытанні.. Не трэба пакідаць іх да сесіі. Не трэба рызыкаваць Канстытуцыяй.

Сёння Кансультатыўны Савет і Канстытуцыйная камісія прадоўжаць разгляд праекта.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ,**
**аглядальнік «Звязды».**

ЭКАНАМІЧНЫ АГЛЯД

# Каб навучыцца плаваць—трэба проста плаваць

Як можна цяпер спадзявацца, з хлебам мы будзем. Напэўна, многія ўжо ведаюць пра заключанае з Казахстанам пагадненне. Гэта, вядома ж, няблага. Але вось закавыка: не сесці б нам на адзін хлеб. Ці будзе да яго што-небудзь яшчэ? За хлеб жа трэба яшчэ і заплаціць, а выробленага ў рэспубліцы прадукту становіцца ўсё менш. Нягледзячы на дзяржаўны аптымізм адносна спраў у эканоміцы, які часам выяўляецца і грунтуецца ў асноўным на сцвярджэнні: у іншых куды горш...

Паводле паведамлення Дзяржкамстата рэспублікі аб выніках работы народнай гаспадаркі за 8 месяцаў, наша эканоміка па-ранейшаму на спадзе. У прыватнасці, выраблены нацыянальны даход, а гэта абагульняючы паказчык нашай работы, знізіўся супраць мінулага года на 15 працэнтаў, прычым тэмпы яго падзення нарастаюць.

Змяншаюцца аб'ёмы вытворчасці ў прамысловасці: калі ў першым квартале падзенне склала 10,2 працэнта, у другім — 13,2, то ў ліпені-жніўні — 21,7. Увогуле, падобнага «прагрэсу» і трэба было чакаць. Многія прадпрыемствы працавалі напаўсілы: на іх замест таго, каб паклапаціцца наконт далейшага лёсу, наконт выжывання ўвогуле, палічылі за лепшае адправіць людзей на свайго роду летнія канікулы, якія, між іншым, дзе-нідзе працягваюцца і зараз. Ды яшчэ з частковай аплатай, хоць сродкаў за гэты час не зароблена. Адкуль яны? Даволі рытарычнае пытанне для нашай рэчаіснасці з яе моцнымі каранямі ўтрыманства...

Найбольшае зніжэнне вытворчасці — у нафтаперапрацоўчай прамысловасці — амаль на 42 працэнты, што, дарэчы, даволі наглядна пацвярджаецца і чэргамі ля бензакалонак (а па вядомай прычыне гэтыя чэргі ў апошнія дні сталі яшчэ больш даўжэзнымі), нафтахімічнай — на 22,6, электратэхнічнай — 31,6, прыборабудаванні — 19,1... Прычым, звернем увагу: падзенне аб'ёмаў адбываецца не толькі з-за рэзкага зніжэння паставак прывазных рэсурсаў, напрыклад, нафты, але і з-за змяншэння заказаў на вырабляемую прадукцыю па прычыне рэзкага росту цэн на яе (датычыцца тэхнікі і абсталявання).

Зноў жа пытанне: няма заказаў — значыць, няма і прыбытку, як жыць?

— Ды не — з прыбыткам якраз усё ў норме. Больш таго, нават пры зніжэнні аб'ёмаў ён няўхільна расце. За студзень — ліпень у цэлым па прамысловасці вырас ажно ў 9 разоў. Значыць, усё выдатна: і менш працуем, і лепш жывём? Тлумачыцца ўсё проста: хоць і колькасць заказаў памяншаецца, і людзі на «канікулах», але новая, непараўнальная з ранейшай цана не толькі пакрывае недастаючы вал, а нават нябачанымі тэмпамі накручвае яго. І той жа прыбытак — таксама. Аднак хто ж у такім выпадку страчвае, рэальнага ж, таварнага прыросту нашага агульнага, з дазволу сказаць, багацця няма?

Усе мы. І тыя ж прадпрыемствы з іх, па сутнасці, прывідным, уяўным прыбыткам, які ў любога вытворцы тут жа абясцэньваецца на фоне няўхільнага росту цэн у іншых, бо ніхто не хоча заставацца ў дурнях, усе накручваюць цану. А ў цэлым усе мы разам дружна коцімся да поўнага збяднення.

Аднак няўжо гэта і ёсць той самы хвалёны рынак, да якога заклікалі? Ды не, рынку няма. Свабодная цана яшчэ не азначае ўсталявання свабоднага рынку — пры ўсім тым, калі не захоўваюцца, а то і яўна ігнаруюцца, парушаюцца іншыя важныя правілы рыначнай гульні. Больш таго, адпусціўшы на волю цэны і пакінуўшы амаль у нязменным стане ўсе іншыя метады ўздзеяння на эканоміку, камандна-адміністрацыйная сістэма набыла такім чынам яшчэ менш прывабны выгляд, яшчэ больш адвярнулася ад спажыўца, пра якога і належыць клапаціцца, а не пра вытворцу. Менавіта вытворцу ішлі і ідуць маштабныя крэдытныя і бюджэтныя ўліванні, менавіта для яго ўстанаўліваюцца льготныя ссудныя працэнты, якія да таго ж бярэ на сябе дзяржава, даруюцца велізарныя даўгі. Пра шматмільярднае фінансавае падсілкоўванне прадпрыемстваў, якое зроблена вясной сёлетняга года і якому, між іншым (будзем мець на ўвазе), мы ў асноўным і абавязаны тымі ж цэнамі, гаварылася ўжо, але вось чарговая падобная ж навіна: чарговае паведамленне пра чарговае спісанне даўгоў, што прамільгнула нядаўна ў прэсе. Праўда, пры ўдакладненні высветлілася, што спісанне яшчэ мае адбыцца і, магчыма, не будзе зацверджана. Магчыма, і так, аднак вылучым галоўнае: банкрутаў у нас не хочуць пакідаць у бядзе. А ўвогуле, дзіўна, парадаксальна атрымліваецца: па сутнасці мы ўсёй грамадой праз бюджэт пазычылі некаму сродкі, прафінансавалі выпуск нейкай прадукцыі, а цяпер нам кажуць: прабачце, не можам вярнуць, а разам з тым заломліваюць для нас так званую свабодную цану. За гэту, падкрэслю, па сутнасці намі прафінансаваную прадукцыю. Двойчы купляем адну і тую рэч, двойчы плацім! Ну хіба магчымыя такія парадоксы ў «іх», да каго

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Маладое пакаленне вырве нас з абдымкаў экалагічнага крызісу. Калі паспее

**Усяго толькі дзесяць гадоў таму назад наша экалагічнае становішча аб'яўлялася «самым лепшым у свеце», а ўсе праблемы існавалі там, «за бугром». Сёння, калі шырокай грамадскасці больш-менш вядомы сапраўдныя звесткі аб стане навакольнага асяроддзя, у рэспубліцы пануючым сярод насельніцтва зрабіўся настрой немагчымасці выхаду з цяжкага экалагічнага крызісу.**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

Становішча сапраўды надзвычай складанае. Больш чым пятая частка ворыўных зямель забруджана радыенуклідамі, згодна з афіцыяльнымі данымі, прыкладна на 40 працэнтах глебы назіраюцца працэсы эрозіі. Акрамя таго, на адлегласці да ста метраў ад аўтамагістраляў забруджванне свінцом перавышае гранічна дапушчальныя ўзроўні (ГДУ). І амаль дваццаць гадоў у Беларусі палі апрацоўваюцца моцнадзеючымі пестыцыдамі, якія доўга захоўваюцца ў глебе. Іх знаходзяць на ўсёй тэрыторыі рэспублікі, але дакладных і падрабязных карт забруджвання няма. У выніку розная атрута з ежай трапляе ў наш арганізм.

Не лепш і з пітной вадой. Выбарачныя даследаванні, праведзеныя навукоўцамі Інстытута геахіміі Акадэміі навук і Белдзяржуніверсітэта, паказалі, што ўзровень нітратаў у 60 працэнтах калодзежаў перавышае ГДУ, а рэгіструюцца яны амаль у 95 працэнтах выпадкаў. Здарылася гэта з-за некантралюемага ўнясення ў глебу мінеральных угнаенняў і будаўніцтва буйных жывёлагадоўчых комплексаў.

Практычна не засталося спелых здаровых лясоў... Увогуле можна сказаць, што Беларусь губляе асноўныя рэсурсы, такія, як вада, глеба, лясы, здароўе сваіх людзей. Сапраўды, ці ёсць выйсце?

Калі пазнаёміцца з вопытам нашых не вельмі далёкіх суседзяў з Галандыі, Даніі і скандынаўскіх краін, то можна ўбачыць, што добрае экалагічнае становішча надзіва выдатна спалучаецца з высокім узроўнем развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Упэўніўся ў гэтым на свае вочы. Але ж на пачатку стагоддзя многім сялянам і нашай краіны было добра знаёма экалагічна збалансаванае земляробства. Так што ўласны вопыт таксама ёсць, варта пра яго толькі ўспомніць.

Вялікая колькасць прыродаахоўных праблем абудзіла пэўную актыўнасць дзяржаўных устаноў, прывяла да ўзнікнення экалагічных грамадскіх арганізацый. Усе яны распрацоўваюць уласныя праграмы паляпшэння становішча, аднак пазітыўных зрухаў пакуль няма. Гэта ўвогуле і не дзіўна, бо ў тых праграмах спрабуюць узяцца за вырашэнне ўсіх праблем адначасова. Не суадносячы сродкі неабходныя і наяўныя. Вось адкуль нізкая выніковасць прыродаахоўнай дзейнасці і апатыя ў грамадстве да гэтай дзейнасці.

Аднак, калі выкарыстаць нават законы фармальнай логікі, то можна спадзявацца, што працаздольная праграма будзе усё ж створана. І шлях да канчатковай мэты будзе раздзелены на пэўныя этапы такім чынам, каб выкананне кожнага папярэдняга стварала ўмовы для ажыццяўлення наступнага.

Перш за ўсё неабходна, каб людзі добра ведалі разбуральныя вынікі сваёй сучаснай дзейнасці і шляхі ашчаднага прыродакарыстання. Дзеля гэтага трэба стварыць сістэмы экалагічнай інфармацыі і экалагічнай адукацыі. Да 1992 года накапілася столькі разнастайнай інфармацыі, што паўстае пытанне аб яе сістэматызацыі. І ўжо на гэтай аснове зможам наладжваць экалагічную адукацыю. Бо будзе вядома, на якія праблемы трэба ў першую чаргу звяртаць увагу. З'яўленне ўслед за гэтым людзей экалагічна мыслячых, маючых пэўныя веды дасць магчымасць напачатку спыніць дзяржаўны вандалізм, тую «гаспадарчую» дзейнасць, якая не ставарае амаль ніякіх тавараў і паслуг, але патрабуе вялікай колькасці прыродных рэсурсаў. Як у выпадках з будаўніцтвам заводаў па вытворчасці кармоў з нафты ці бетанавання берагоў Свіслачы ў Мінску. За грошы, выдзеленыя... на прыродаахоўныя мэты.

Добра наладжаныя інфармаванне і адукацыя будуць падштурхоўваць да тэхнічнага пераўзбраення буйных прадпрыемстваў, якія з'яўляюцца асноўнымі разбуральнікамі прыроды ў рэспубліцы. Але, відаць, не абыдземся без стымулявання пераходу прадпрыемстваў да экалагічна чыстых тэхналогій — праз значнае павышэнне штрафаў і платы за рэсурсы, а таксама праз выдзяленне льготных крэдытаў для ўкаранення такіх тэхналогій.

Калі ўзровень ціску на прыроду пачне памяншацца, створацца добрыя псіхалагічныя ўмовы для спынення разбурэння прыроды асобнымі грамадзянамі — шляхам актыўнай агітацыі і зноў жа выкарыстання штрафаў. Адначасова можа быць пачата палітыка ўздзеяння на спажыўца праз дадатковыя падаткі і падатковыя льготы за набыццё тых тавараў, пры вытворчасці якіх прыродзе наносіцца найменшая шкода.

Як бачыце, выкрышталізоўваецца цэлая стратэгія. І калі з ёю згадзіцца, то паўстае пытанне: хто павінен усім гэтым займацца? Для нас можа быць карысным вопыт заходнееўрапейскіх краін, дзе пашыраны «зялёны» рух. Яго ўдзельнікам можа лічыць сябе толькі той, хто працуе над пэўным прыродаахоўным праектам. Звычайна такія канкрэтныя праекты ажыццяўляюць невялічкія групы — ад 7 да 15 чалавек. Кожная каардынуе сваю работу з іншымі. Калі група дасягае пэўных вынікаў, яна звяртаецца ў дзяржаўныя ўстановы аб адкрыцці фінансавання праекта.

Такая сістэма паказала сваю надзвычай высокую эфектыўнасць. Такім чынам таму, хто жадае нешта зрабіць для паляпшэння стану навакольнага асяроддзя, можна параіць сабраць вакол сябе невялікую групу аднадумцаў, паставіць перад сабой задачу і пачаць метадычную работу па яе ажыццяўленню.

Дарэчы, у Мінску ўжо існуе экалагічны клуб, які працуе над некалькімі канкрэтнымі праектамі. Прыведзеныя вышэй прапановы па выхаду з экалагічнага крызісу якраз і з'яўляюцца адным з вынікаў работы клуба. Сваім галоўным напрамкам дзейнасці на бліжэйшы год мы лічым стварэнне інфармацыйнага забеспячэння для сістэмы экалагічнай адукацыі.

Саму экалагічную адукацыю ўяўляецца мэтазгодным падзяліць на тры этапы, кожнаму з якіх адпавядае свой змест і свая методыка выкладання.

Першы этап адносіцца да ўзросту ад аднаго года да дзесяці і ставіць сваёй мэтай навучыць дзіця так паводзіць сябе ў прыродзе, каб не наносіць шкоды сабе і ёй. З дзесяці да пятнаццаці гадоў мэтазгодна навучыць школьніка ашчаднаму прыродакарыстанню. І нарэшце, пачынаючы прыкладна з 15 гадоў, можна вучыць юнакоў і дзяўчат, а заадно і дарослых, аналізу складаных сітуацый, прыцягваць іх да вырашэння сапраўдных экалагічных праблем.

Моладзь — найбольш перспектыўная частка грамадства. І калі навучыць яе, як арганізоўваць сумесную працу, то можна спадзявацца, што з цягам часу яна здолее знайсці эфектыўнае выйсце з экалагічнага крызісу. Але ці варта дарослым сядзець і проста чакаць добрых перамен, склаўшы рукі? Можна і не дачакацца.

**Я. ЦЕРАХАЎ,**
**дырэктар Лошыцкага садова-паркавага комплексу.**

# У лес па... смерць?

## ГРЫБНАЯ ЛІХАМАНКА З ЛЯТАЛЬНЫМ ВЫНІКАМ

**По традыцыі кожны год з надыходам восені, нашы і без таго ледзь жывыя лясы падвяргаюцца масіраванай атацы двухногай саранчы ў чалавечым аблічча, якая ва ўмовах найжорсткай канкурэнцыі спяшаецца ўнесці пасільны ўклад ва ўсеагульную справу рабавання адзінай на сённяшні дзень непрыватызаванай лясной кладоўкі. Шчыльнымі радамі так ідуць грыбнікі, спрытна сартуючы не надта багатыя трафеі — на супчык, на сушку, на засолку... Прынамсі, так было заўсёды. Сённяшні зборшчык «ураджаю» падоўгу сядзіць над адшуканым грыбам, прыглядаецца, прынюхваецца, пакутліва раздумваючы: а раптам не пашанцуе?**

Так, пакрысе, усе нашы ўнутраныя катаклізмы пераносяцца на нашу флору і фауну. І сёння ўжо даволі небяспечна мець справу нават з тым, чаго апасаешся менш за ўсё. Чорны гумар, але задача грыбнікоў аблегчылася: зараз, па ўсім відаць, у адзін кошык смела можна кідаць і мухаморы, і падасінавікі, і бледную паганку. Увогуле, якая розніца, ад чаго атруціцца? Прынамсі, сухія лічбы статыстыкі малююць даволі страшную карціну. З пачатку грыбной ліхаманкі на тэрыторыі краін СНД у выніку атручэння грыбамі ўжо хварэла больш за 250 чалавек (афіцыяльна зарэгістраваныя). У 36 выпадках не ўдалося пазбегнуць лятальнага выніку. Напэўна, усе ведаюць пра жнівеньскую эпідэмію ў Варонежскай вобласці Расіі, дзе літаральна за некалькі дзён развіталіся з жыццём 23 чалавекі. На шчасце, у Беларусі смяротных выпадкаў няма, хоць цяжкія атручэнні нярэдкія.

**4 верасня ў Маладзечанскім раёне атруціліся грыбамі 10 асоб кітайскай нацыянальнасці, трое з якіх і зараз у вельмі цяжкім стане.**

**10 верасня ў Бярэзінскім раёне грыбная атрута напаткала цэлую сям'ю грыбнікоў. Пяць чалавек, у тым ліку двое дзяцей, моцна захварэлі.**

**16 верасня ў Смаргонскім раёне жанчына атруцілася варанымі апенькамі. Да гэтага часу жанчына паражоная сутаргамі, знаходзіцца ў рэанімацыі.**

Лагічна напрошваецца пытанне: а ці разумна наогул адпраўляцца за гэтым, на сённяшні дзень сумніцельным дарам прыроды, калі сам апасаешся, што грыбны ваяж можа быць апошнім у тваім жыцці (вядома, утрыруючы сітуацыю — **І. К., С. С.**) Але з такім пытаннем лепш за ўсё звярнуцца да спецыяліста, што мы і зрабілі, адчыніўшы дзверы мінскай гарадской санітарна - эпідэміялагічнай станцыі.

Урач па гігіене харчавання Марыя Навічкова не стала адназначна адказваць на пытанне, але пэўныя парады з яе боку, трэба думаць, будуць якраз дарэчы і ўнясуць пэўную яснасць у даволі дзіўную і заблытаную сітуацыю.

— Прычыны атручэння ў большасці сваёй да гэтага часу застаюцца нявысветленымі. Сімптомы нагадваюць атручэнне таксінам бледнай паганкі. Вядома, было б наіўна думаць, што людзі раптам згубілі сваю «грыбную кваліфікацыю» і перайшлі на нарыхтоўку мухамораў і паганак. Да таго ж, пацярпеўшыя называюць добра вядомыя грыбы, ад якіх, як аказалася, можна чакаць усяго.

Хіт-парад па колькасці зарэгістраваных атручэнняў на сённяшні дзень выглядае наступным чынам: маслякі, сыраежкі, падбярозавікі і шампіньёны. Трэба адзначыць, што па знешняму выгляду грыбы зусім дабраякасныя і наўрад ці могуць у некага выклікаць апасенне. І толькі метадам лабараторных даследаванняў у адным выпадку з дзесяці фіксуецца павышанае ўтрыманне солей цяжкіх металаў і пестыцыдаў.

Адной з прычын, па якой грыбы набылі зусім не ўласцівыя ім якасці, санітарна-эпідэміялагічная служба лічыць сёлетняе надзвычай гарачае лета з мінімумам ападкаў. Падобныя кліматычныя ўмовы ў пэўнай меры спрыяюць назапашванню таксічных рэчываў. Данае сцвярджэнне хоць і небясспрэчнае, падмацоўваецца ўсё ж супастаўленнем фактаў, праверaных часам. Напрыклад, у краінах з сухім гарачым надвор'ем белы грыб спрадвеку лічыцца неядомым. Магчыма, у выніку беспрэцэдэнтнага гарачага лета—92 і нашы грыбы набылі таксічныя ўласцівасці паўднёвых «сваякоў». Адказаць на гэта пытанне ў хуткім часе бяруцца вучоныя, якія зараз працуюць над тлумачэннем «хамелеонскіх» здольнасцей грыбоў нашых лясоў.

Але ад слоў — да справы. Вось некаторыя парады, якія дае Марыя Навічкова.

**Найперш, санэпідслужба ў гэтым годзе рэкамендуе калі не поўнасцю адмовіцца ад збору грыбоў (вядома, даволі цяжка ў разгар сезона не наведваць лес), то хоць бы звесці яго да мінімуму. Калі ж вы ўсё-такі сабраліся ў лес, то трэба памятаць старыя, як свет, ісціны. Па-першае, збіраць трэба толькі тыя грыбы, якія добра ведаеце і ўпэўнены ў іх дабраякаснасці. Эксперыменты ні да чаго добрага не прывядуць.**

**З 200 відаў ядомых грыбоў на Беларусі ў ежу выкарыстоўваюць толькі некалькі дзесяткаў.**

**Па-другое, не варта даваць грыбы дзецям, бо апошнія найбольш успрымальныя да шкодных для арганізма таксічных рэчываў, якія могуць утрымлівацца не толькі ў сабраных грыбах, але і з'явіцца пры няправільнай цеплавой іх апрацоўцы. Наступны, вельмі немалаважны момант. Грыбы пры захоўванні на паветры таксама набываюць таксічныя ўласцівасці (і ўжо толькі па вашай віне), таму, калі вы не паспяваеце іх адразу перапрацаваць, заліце вадой. Грыбы вады не баяцца. Не ведаю, ці трэба яшчэ раз гаварыць пра мыццё з частай зменай вады. Для марынавання неабходна адбіраць толькі маладыя і моцныя грыбочкі. Калі вы збіраецеся грыбы загатаваць, трэба не менш двух разоў зліць ваду пасля закіпання і толькі потым можна грыбы смажыць ці марынаваць. Ні ў якім разе не рэкамендуецца змешваць пры варцы розныя віды грыбоў.**

**Не імкніцеся грыбы герметычна закрываць. Перад ужываннем грыбы з закатаных шклянак неабходна перакіпяціць, бо пры кіпячэнні нейтралізуецца (разбураецца) таксін батулізму.**

**Не рэкамендуецца выкарыстоўваць у ежу старыя грыбы, нават калі гэта белыя, лісічкі, падасінавікі, падбярозавікі і г. д., бо пры старэнні яны назапашваюць шмат шкодных рэчаў.**

**Варта яшчэ сказаць, што ў грыбах, якія дастаўляюцца на даследаванне ў санэпідстанцыю, да гэтага часу рэгіструецца павышанае ўтрыманне радыенуклідаў. Таму сабраныя вамі грыбы зусім не лішне было б праверыць у радыеметрычных лабараторыях.**

Вось такія парады паступілі з боку спецыяліста. Калі вы будзеце іх няўхільна прытрымлівацца, нам застаецца толькі пажадаць вам прыемнага апетыту.

Дарэчы, па ініцыятыве Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ва ўсіх гарадскіх і раённых аддзелах аховы здароўя рэспублікі былі праведзены нарады, прысвечаныя атручэнню грыбамі. На іх медыкам дадзены адпаведныя ўказанні. Будзем чакаць пазітыўных зрухаў.

**Ігар КАРНЕЙ,**
**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

ПОГЛЯД НА ПРАБЛЕМУ



## Ці не лепш папярэдзіць?

У цывілізаваных краінах з'яўленне на свет такіх дзяцей проста не дапускаюць. Прыборы, якія даюць магчымасць ужо ў першыя месяцы цяжарнасці вызначыць, ці здаровае будучае дзіця, з'явіліся і ў нас. Але ці то па прычыне недастатковай інфармаванасці, ці то спадзеючыся на «а можа», жанчыны, якія рыхтуюцца стаць маці, не так часта, як належала б, абследуюцца на навейшай апаратуры. І як вынік — з'яўленне на свет непаўнацэнных дзяцей.

У гомельскім Доме дзіцяці колькасць груп для такіх дзяцей за апошнія гады вырасла з двух да трынаццаці. З часам падросшыя дзеці пераводзяцца ў дзіцячы дом для разумова адсталых дзяцей у Журавічы. З трохсот яго жыхароў толькі крыху больш трыццаці так званыя «ўмоўна навучаемыя» — тыя, што да пятнаццаці гадоў у стане навучыцца лічыць да дзесяці ды засвоіць літары алфавіта. Трэць жа дзяцей—наогул ляжачыя, якім патрэбен пастаянны догляд.

Медперсаналу не пад сілу ўдзяляць кожнаму дзіцяці належную ўвагу. Працуюць жа тут у большасці людзі старога ўзросту. Маладыя ж спецыялісты не хочуць брацца за гэтую няўдзячную работу.

Дэфіцытныя лекі, адзенне, абслугоўванне, зарплата супрацоўнікам — у кругленькую суму для дзяржавы выліваецца ўтрыманне кожнага непаўнацэннага дзіцяці, а пазней — і дарослага ў псіхіятрычных бальніцах. Акрамя матэрыяльнай ёсць у гэтай праблемы і маральны бок: пакуты маці і бацькоў.

Дык ці не прасцей гэта папярэдзіць?..

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН,**
**кар. БЕЛІНФАРМ.**

# Добры доктар Айбаліт як кітайскі гуманіст

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

**У рэспубліканскім дыспансеры НДІ радыяцыйнай медыцыны працуе група кітайскіх урачоў. Паўгода яны будуць назіраць хворых дзяцей і дарослых, прыехаўшых з забруджаных радыяцыяй раёнаў.**

**Наколькі патрэбна нам зараз любая дапамога — лічыце самі: сярод насельніцтва кантралюемых раёнаў колькасць захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы павялічылася ў паўтара разы, страўнікава-кішачнага тракту — у паўтара-два разы. Вельмі церпяць нервовая сістэма і органы дыхання. Да двухтысячнага года чакаецца рост анказахворванняў сярод чарнобыльцаў. Нават у Мінску за гэты год іх колькасць павялічылася ў два разы ў параўнанні з мінулым.**

**Галоўны ўрач дыспансера Валерый Аляксандравіч Ржэуцкі гаворыць: для таго, каб усе, каму неабходна дапамога, атрымалі яе, урачам даводзіцца вытрымліваць вялікія нагрузкі. Прымаюць амаль па трыста чалавек у змену (норма наведвальнікаў за ўвесь працоўны дзень).**

Кітайскія спецыялісты радыяцыйнай медыцыны акрамя сваіх ведаў прывезлі медыцынскае абсталяванне, гамавылічальны прыбор, набор лекавых траў, пілюлі. Паўгода працы ў Мінску будуць поўнасцю аплачаны кіраўніцтвам Кітайскай Народнай Рэспублікі.

Прафесар Лі Суюнь, з якою я сустрэлася ў час прыёму дзвюх брагінскіх дзяўчынак. на даволі зразумелай рускай мове прапанавала іх маме рэцэпт, акуратна напісаны іерогліфамі. Потым згадзілася расказаць аб рабоце іх групы ў Мінску.

**— На чым заснаваны вашы метады ўплыву на хворага чалавека?**

— Мы лечым сваімі традыцыйнымі кітайскімі метадамі. Мы прывезлі сюды гатовыя прэпараты, таблеткі, капсулы, пілюлі — усяго 105 відаў. Адначасова прымяняем натуральныя лекавыя травы 222 відаў. Назначаем таксама іголкарэфлексатэрапію.

**— Ці могуць беларускія медыкі авалодаць гэтымі метадамі работы з хворымі?**

— Канешне, могуць. Калі хто жадае вучыцца, няхай звяртаецца да нас. Па пагадненню паміж кіраўніцтвам Кітайскай Народнай Рэспублікі і Беларусі, мы гатовы прымаць па пяць урачоў вучыцца іголкатэрапіі ў Кітаі. І ўсё гэта бясплатна.

**— Ці былі ў вашай практыцы прыклады работы з людзьмі такога ж узроўню паражонасці і наколькі эфектыўнай была ваша дапамога?**

— Мы ўпершыню сутыкнуліся з такім становішчам, якое склалася на Беларусі. Узровень забруджанасці тут значна вышэй, чым у Расіі ці на Украіне Але захворванні насельніцтва зараз выкліканы не непасрэдным дзеяннем радыяцыйнага фону, а хутчэй комплексам прычын: псіхалагічнымі ўмовамі жыцця, хімічным фактарам і, безумоўна, чысцінёй ужываемых прадуктаў харчавання. А калі гаварыць аб эфектыўнасці лекаў, то трэба адзначыць, што традыцыйная кітайская медыцына існуе некалькі тысяч гадоў. За гэты час пацвердзілася эфектыўнасць нашых методык лячэння многіх захворванняў, у даным выпадку — выкліканых радыяцыяй змен у розных сістэмах чалавечага арганізма.

**— Магчыма, ёсць нейкія канкрэтныя рэцэпты таго, як выводзіць радыенукліды з чалавечага арганізма?**

— Такія сродкі ў Кітаі існуюць. Але мы іх не прывезлі. І яшчэ вядзецца пошук новых.

**— Радыяцыя перш-наперш падрывае імунную сістэму. Вірус СНІДу таксама дзейнічае на імунітэт. Калі вы спрабуеце лячыць традыцыйнымі кітайскімі метадамі захворванні, выкліканыя радыяцыяй, магчыма, гэтыя спосабы маглі б быць карыснымі і ў барацьбе з «чумой XX стагоддзя»?**

— Дакладна я не ведаю, але мы чулі, што такія даследаванні ў нас таксама вядуцца.

**— Ці можа любы чалавек стаць лекарам самога сябе?**

— Так, многае залежыць ад стану чалавека, як ён сам сябе настроіць. А я магу параіць адно: людзі не павінны пужацца існуючага становішча. Псіхалагічна гэта вельмі дрэнна дзейнічае на агульны стан арганізма, зніжаецца здольнасць унутранай абароны. Арганізм павінен падтрымліваць сваю імунную сістэму, перш-наперш псіхалагічна.

**— Вы працуеце тут каля месяца, ці ёсць ужо нейкія станоўчыя вынікі дзеяння вашых лекаў?**

— Так, ужо сякія-такія вынікі ёсць. У некаторых пасля іголкарэфлексатэрапіі стан паляпшаецца. У каго выпадалі валасы, пасля прыняцця лекаў гэты працэс спыняецца. Таксама пацыенты пасля аперацыі пухлін адчуваюць сябе значна лепш, калі ўжываюць прапанаваныя намі лекі. Ёсць у некаторых паляпшэнні ў рабоце органаў стрававання. Але ўсе вынікі можна будзе падвесці толькі праз паўгода.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК.**

НАСТАЎНІК І ЧАС: ВЕЧНЫЯ ІСЦІНЫ

# РАТУЙЦЕ НАШЫ ДУШЫ!

## Як нам выкарабкацца з бездані бездухоўнасці?

**Мы ўжо прызвычаіліся да таго, што ў жніўні заўсёды падымаецца хваля надзвычайнай увагі да праблем школы, па нарастаючай ідуць размовы аб высокай ролі настаўніка ў грамадстве. І паралельна, канешне, прэтэнзіі-нараканні на школу: таго не дала, гэтаму не навучыла...**

**А сёлета — заўважылі? — раптам неяк ўсё сціхла. Зразумелі, што ў час нягоды і агульнай дэпрэсіі патрабаваць нечага асаблівага ад настаўніка — чарговая ілюзія, бо ўсе мы — дзеці адной эпохі, а настаўнік, можа, больш чым хто іншы адчувае маральны дыскамфорт... Дык хіба ў стане ён паказаць вучню святло, да якога варта імкнуцца, — калі не бачаць гэтага святла палітыкі, калі згубілі яго многія пісьменнікі, філосафы?..**

**У тым, што мы ёсць цяпер як нацыя і грамадзяне, найпершая заслуга настаўнікаў,— пісаў Васіль Быкаў у аповесці «Абеліск». Мне здаецца, і зараз уся надзея на настаўніка, для якога педагогіка не проста прафесія — Служэнне, Місія. На пачатку новага навучальнага года з усімі сумненнямі і трывогамі я прыйшла да сваёй настаўніцы, Антаніны Яўгенаўны Рак. Мінулі гады пасля заканчэння школы, але многія былыя вучні— цяпер ужо дарослыя мужчыны і жанчыны, самі бацькі — у цяжкую хвіліну звяртаюцца да яе і зараз. Настаўніца ад Бога: яна абуджала «пачуцці добрыя» ў самых безнадзейных хуліганаў, запальвала ў дзіцячых душах святло, якога так не хапае ўсім нам сёння. Яе цяперашнім вучням можна толькі пазайздросціць...**

**— Антаніна Яўгенаўна, чаму ўсё-такі «жоўты д'ябал» так хутка акупіраваў дзіцячыя душы?**

— Не без дапамогі сродкаў масавай інфармацыі! Толькі цяпер, напэўна, мы і ўсвядомілі, чаму журналістыку называюць «чацвёртай уладай»... Паглядзі, з усіх бакоў наступае рэклама: запрашаюцца «господа с прекрасными дамами» — і залпы шампанскага, і па-купецку вальяжны звон хрустальных бакалаў... Што ты з сябе ўяўляеш як асоба— няважна, абы кашалёк быў тоўсты... А дзеці хочуць усяго — і адразу. Не жадаюць чакаць: нагледзеліся, як усё жыццё чакалі іх бацькі. Яны хочуць быць дзелавымі, багатымі — гэта так прэстыжна! А беднасць — загана. І тым не менш не трэба ўсіх падводзіць пад адну рысу — вучні розныя.

**— Вы маглі б апынуцца на месцы настаўніцы з фільма Эльдара Разанава «Дарагая Алена Сяргееўна»?**

— Цяжка ўявіць маіх вучняў такімі. Хаця, канешне, ёсць падлеткі, для якіх мэта апраўдвае любыя сродкі. На жаль...

**— Цынізм увайшоў у псіхалогію нашага грамадства. Вы, настаўніца літаратуры, не адчуваеце няёмкасці, калі гаворыце пра доўг, вернасць, ідэалы? Не адчуваеце сябе «белай варонай»?**

— Не. Пытанне ў тым, гаворыць настаўнік праўду вучням, ці не. Сваю праўду, не чужую...

**— Школьнікі цяпер больш заклапочаны пытаннямі сексу, а не праблемамі сэнсу жыцця...**

— Але вось парадокс: секс у нас ёсць, а кахання няма. Сваю задачу я бачу ў тым, каб з дапамогаю літаратуры навучыць моладзь кахаць, выхаваць культуру пачуццяў. Я ніколі не абмінала сцэн кахання ў літаратуры. Іншая справа — **як** я іх падам, **на што** звярну ўвагу ў «пікантнай» сітуацыі. На тое, што ў пакой да Веры Паўлаўны стукаюць, перш чым увайсці. На тое, як Анатоль Курагін пацалаваў Наташу і што яна пры гэтым адчула — рух маладосці і жыцця, гэта было яе першае каханне. А тут яшчэ Андрэя Балконскага побач не аказалася, а Элен Курагіна сваім жаноцкім, сексуальным абаяннем усіх заглушае... І Наташа, натуральна, як кожная дзяўчынка, — яна павінна была здрыгануцца!.. За што яе асуджаць? — мы разам з вучнямі шукаем адказ на гэта пытанне. Але я не хачу капацца ў падрабязнасцях! Я адчувала б сябе непрыстойна: гэта — тайнае. Славянскі этнас і адрозніваўся ад іншых вось гэтай сарамлівасцю, і асабліва — сарамлівасцю славянскай жанчыны.

**— Некаторыя настроены надзвычай ваяўніча адносна рускай літаратуры.**

— Даўно заўважана: самы лепшы спосаб дыскрэдытаваць ідэю — давесці яе да крайнасці. Цудоўна, што мы вяртаемся да свайго спрадвечнага, адраджаем родную мову і культуру. Але ці варта пры гэтым апускаць новую «жалезную заслону»: маўляў, будзем ведаць толькі сваё. Наадварот, каб быць культурнай, адукаванай нацыяй, мы павінны даваць школьнікам у большым аб'ёме і замежную літаратуру, і літаратуру былых рэспублік СССР. А што тычыцца рускай, дык гэтая літаратура дала ўзоры сусветнага ўзроўню, уся прасякнута гуманізмам. Дзякуючы веданню мовы, мы маем магчымасць чытаць яе не ў перакладзе, а ў арыгінале. Навошта ж саміх сябе абмяжоўваць, абкрадваць?! Дарэчы, памятаеш, у Васіля Быкава: «... як пражыць без Талстога? Ці можна ў наш час быць адукаваным чалавекам, не чытаўшы Талстога? Ды і наогул, ці можна быць чалавекам?..»

**— Аднак сёй-той перакананы, што менавіта руская літаратура «накаркала» рэвалюцыю.**

— Нарэшце, мы прыйшлі да высновы, што Шэкспір не ўкладваў у Гамлета і сотай долі таго, што ўкладваем у яго мы. У Бібліі няма заклікаў да рэвалюцыі, але многія рэвалюцыйныя рухі пачыналі якраз з Бібліяй у руках. У чэхаўскай «Палаце № 6» няма нічога рэвалюцыйнага, а Ленін сцвярджаў, што яна дапамагла яму стаць рэвалюцыянерам... Сапраўдная літаратура абуджае думку, але вывады кожны робіць сам.

**— Раней да літаратуры быў строга класавы падыход?**

— Так, сістэма пастаянна прыніжала настаўніка, прымушаючы яго трактаваць творы з пэўных пазіцый. З праграмы ўвесь час некага забіралі, кагосьці вярталі. Выкрэслівалі Дастаеўскага, Фета і Майкава —яны не напісалі пра адмену прыгоннага права. Аднак я заўсёды лічыла сваім абавязкам не ціснуць на дзяцей — каб яны адстойвалі свой пункт гледжання. Прапаноўвала, безумоўна, і сваё разуменне, але раней увесь час апасалася, як той чэхаўскі «чалавек у футляры»: як бы чаго не выйшла!

**— А цяпер існуюць нейкія патрабаванні да трактоўкі твораў?**

— Зараз, я сказала б, негуманна-выкрывальніцкі падыход да літаратуры. Па праграме я абавязкова павінна сутыкнуць Платонава і Шолахава ў рамках тэмы «Крытыка шляхоў сацыялістычнага пераўтварэння», гэтак — і з іншымі пісьменнікамі. Каго з мяне робяць? Тады патрабавалі, каб настаўнік увесь час ішоў на павадку сістэмы, гаворачы, што маральна толькі тое, што маральна для пралетарыяту. А зараз павінна вышукваць ледзь не ва ўсім нешта дрэннае, негатыўнае. Але ж я не магу даць сабе права сутыкаць ілбамі вялікіх таленавітых людзей: кожнага пісьменніка трэба прымаць такім, які ён ёсць, — не прыхарошваючы і не ачарняючы. Калі ўжо настаўніка пакінуць свабодным?.. Напрыклад, я хачу даваць урокі гумару па «Паднятай цаліне», але ж у сённяшнім плане дзед Шчукар —гультай, нядбалец, галадранец, гаспадаркі ў яго няма. Які тут гумар, — адмоўны персанаж. Ну, мілыя мае!.. Ну што за «новы падыход» такі?!

**— Многія творы мастацтва пабудаваны на аснове біблейскіх сюжэтаў, дый саму Біблію можна разглядаць як моцны прытчавы мастацкі твор. Магчыма, і яе трэба вывучаць у рамках літаратуры?**

— Ужо ў шостым класе ў праграму ўключаны біблейскія паданні, і выкладаць будзе настаўнік. Але я баюся гэтага, баюся святатацтва і некампетэнтнасці, якія могуць толькі нашкодзіць.

**— Можа, менавіта ў рэлігіі наша выратаванне?**

— Духоўнасць павінна быць свядомай. Каб чалавек быў маральным па ўнутранай патрэбе, а не з-за страху перад пеклам. Як у Талстога: Бог павінен быць у душы. Бог — гэта сумленне...

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

# Запчасткі на вагу золата...

**Усеагульны недавер імпартнай рэпліцы: «аўтамабіль — не раскоша...»**

Прадбачлівы абывацель, які два гады назад набыў аўтамабіль за 8 тысяч і нават год назад—за 20 тысяч рублёў, сёння можа адчуваць сябе багацеем. На «чорным» рынку (дарэчы, назва гэта паступова губляе свой першапачатковы сэнс, бо межы паміж «чорным» і альтэрнатыўным яму сумленным рынкам зведзены на нішто) яго машына цягне на 350—600 тысяч рублёў у залежнасці ад прэстыжнасці маркі. Пакуль што верхнюю мяжу «чорных» цэн трымае «дзявятка» і ад яе вытворныя — 850 тысяч, мільён і нават больш. Але шчаслівых — у некаторым сэнсе — уладальнікаў «скарбу на колах» трывожаць у першую чаргу сімптомы абвальнага падаражання запчастак — літаральна ад гайкі і да ветравога шкла. Так, з прыходам рынку, які ігнаруе ўсе законы разумнага сэнсу, пачалася шалёная гонка цэн на камплектуючыя дэталі.

Блок цыліндраў ВАЗ-2108 абыдзецца сёння ў 15—20 тысяч рублёў. Карбюратар каштуе 5—6 тысяч. Крыло або дзверцы знойдуць новага гаспадара адпаведна за 4—6 і 3—5 тысяч «драўляных». Лабавое шкло — ад дзвюх да трох з палавінай тысяч. За пакрышку для любой экс-савецкай маркі можна выручыць тры-чатыры тысячы рублёў. Да ўсяго гэтага трэба дадаць і такое «стыхійнае бедства», як бензін, і хоць кошт яго ў рэспубліцы пакуль што церпіць (нагадаю: АІ-92—7 рублёў і АІ-76 — 6 рублёў за літр, і толькі камерцыйная цана ўзляцела да 26 рублёў), але лімітызаваныя дозы вымушаюць аўтааматараў складаць графік «актуальнасці» кожнай паездкі.

Што датычыцца цэн на аўтазапчасткі да іншамарак, то памножце вышэй указаныя лічбы на 2, 3, а то і 4 і атрымаеце тое, што патрабуецца. А цэнтры па абслугоўванню імпартных аўтамабіляў, таксама наўрад ці здольныя здзівіць ліберальнасцю сваіх расцэнак.

Вось так, карціна не з вясёлых, прынамсі, з разраду тых, якія ў корані абвяргаюць вядомую фразу «аўтамабіль — не раскоша...» Прабачце, а што тады?

...Дарэчы, у камерцыйным магазіне ўсякая дэталь абыдзецца ўладальніку аўто даражэй, чым на «біржы» перад гандлёвай кропкай (тут, напэўна, дарэчы будзе сказаць, што тэрмін «дзяржцана», па ўсім відаць, загадаў доўга жыць, і аўтазапчасткі любой катэгорыі атрымалі «жаданую» свабоду). З магазіна дзяруць падаткі. Гэтая немалаважная акалічнасць вымушае прадаўцоў павышаць цану практычна на ўвесь асартымент. У параўнанні ж з «цывілізаваным» гандлем, на таўчку дзейнічае закон джунгляў: замнога запросіш — купяць у суседа. Так што прыходзіцца ўлічваць змены ў настроі пакупніка.

Аднак барыгі не застаюцца ў накладзе. Не так ужо і рэдка ім выпадае ахмурыць «чайніка», усучыўшы яму за дваццатнік пракладку, якая ляжыць у дзяржаўным магазіне за пяцёрку. Часам ад навапечаных бізнесменаў і асмялеўшых замежных студэнтаў перападаюць долары. І куды, як не на таўчок, рабочы прынясе з завода ўсяго за бутэльку гарэлкі падшыпнік, які потым пойдзе з рук за 300—500 рублёў.

Сцяжынкі, па якіх ідуць на «біржу», пратаптаны даўно. Гэта, у першую чаргу, «чорны» рынак аўтасервіса. Вельмі паспяхова ён доіць і аўтапрадпрыемствы, ганцы на якія табунамі нясуцца з усіх куткоў былога магутнага і непарушнага Саюза. Не выпадкова «жалеза» да «Жыгулёў» ва ўсе часы было праблемай нумар адзін. Па-ранейшаму бязбожна крадуць на чыгуначных станцыях. Гэтак жа інтэнсіўна цягнуць з «надзейна ахоўваемых» заводаў. Усё часцей у сродках інфармацыі ўсплываюць запозненыя выкрыцці «герояў», якія ўзялі на абардаж той або іншы аб'ект.

Нарэшце, рынак заўсёды меў трывалую падпітку за кошт угонаў як асабістага, так і службовага транспарту. Паводле даных аддзела па барацьбе з угонамі МУС, за сем месяцаў бягучага года ў рэспубліцы зарэгістравана 1.144 выпадкі ўгонаў. Колькасць толькі зарэгістраваных крадзяжоў запчастак з аўтамабіляў у Беларусі ўзрасла з 2.458 у мінулым годзе да 2.782 за адпаведны перыяд гэтага. Па Мінску гэтыя паказчыкі яшчэ больш унушальныя: сем месяцаў 1991 года—299 крадзяжоў і 121 угон, 7 месяцаў сёлета—321 і 150 адпаведна.

У Мінску за суткі ўганяецца па 5—7 машын. Асноўная частка іх разбіраецца, што ўжо само па сабе робіць немагчымым нейкі іх пошук. На першых радках хіт-парада па ўгонах стаяць, як ні дзіўна, старыя і больш, чым іншыя, патрабуючыя запчастак мадэлі —ВАЗ-2101, 2111, 2113, 2103 і 21061.

Так што, трэба думаць, з дэталямі і далей будзе «напружанка».

**Ігар КАРНЕЙ.**

